*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года    № 37 (723)    28 ВЕРАСНЯ 2005 г.

## Пашырэнне беларускай мовы ў міжнародным эфіры спрыяе дэмакратызацыі Беларусі

*Заява Сакратарыяту ТБМ*

Сёлета Еўрапейскі Саюз нарэшце звярнуў увагу на праблему ўціску недзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі ў нашай краіне і абвясціў шэраг тэндараў па арганізацыі дадатковага вяшчання на Беларусь. У ліпені 2005 года было паведамлена аб намерах Еўракамісіі падтрымаць вяшчанне на Беларусь нямецкай радыёстанцыі "Deutsche Welle", але толькі на рускай мове. Беспрэцэдэнтнае рашэнне аб вяшчанні на мове суседняй дзяржавы выклікала абурэнне тысяч грамадзян Беларусі, дзесяткаў недзяржаўных арганізацый, беларускай дыяспары ва ўсім свеце.

Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" выказвае рашучую нязгоду з намерамі весці вяшчанне на беларускую аўдыторыю па-руску. Пачынаючы з XIX стагоддзя палітыку русіфікацыі на тэрыторыі нашай краіны паслядоўна праводзілі ўлады Расійскай імперыі і камуністычныя ўлады СССР. Зараз эстафету па русіфікацыі беларусаў прымае на сябе дэмакратычная Еўропа, нягледзячы на тое, што амаль 75 % насельніцтва нашай краіны вызнае сваёй роднай мовай беларускую.

ТБМ адзначае, што **беларуская мова**, на якой быў напісаны адзін з самых значных юрыдычных дакументаў у Еўропе "Статут Вялікага Княства Літоўскага", доўгі час была мовай міжнародных зносін. Згодна з Канстытуцыяй Беларусі, прынятай паводле дэмакратычных працэдур у 1994 г., менавіта беларуская мова была прызнана адзінай дзяржаўнай у нашай краіне. Далейшыя змены, унесеныя ў Канстытуцыю 1996 года, не прызнаюцца сусветнай дэмакратычнай супольнасцю, у тым ліку і краінамі Еўразвязу. Таму беларуская мова **была і ёсць мовай дэмакратыі ў нашай краіне**. Жаданне Еўрапейскай камісіі аддаць перавагу рускай мове будзе ўспрымацца беларускім народам як адступленне ад дэмакратычных нормаў, гульню па чужых правілах і сапраўдную дэмакратыю ў Беларусь не прынясе.

**Прынята на паседжанні Сакратарыята ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны"**
**21 верасня 2005 г.**

## ЗАЯВА

Таварыства Беларускай культуры ў Літве вітае ініцыятыву рэдакцыі "Deutsche Welle" з фінансавай дапамогай Эўразвязу распачаць трансляцыю на Беларусь перадач, якія будуць спрыяць дэмакратызацыі беларускага грамадства. Фактычна ў Беларусі адсутнічаюць свабодныя і незалежныя ад уладаў электронныя сродкі інфармацыі.

Разам з тым мы ня згодны, каб гэтыя перадачы рыхтавала руская рэдакцыя на рускай мове.

Беларускія ўлады праводзяць татальную русіфікацыю грамадзкага жыцьця. Руская перадача "Нямецкай хвалі" будзе спрыяць гэтаму антыбеларускаму працэсу.

Зацікаўленасьць радыёслухачоў будзе залежаць ад зьместу перадач, бо любы жыхар Беларусі разумее па-беларуску, а інтэлектуальны патэнцыял беларусаў дастатковы, каб самім рабіць перадачы актуальнымі і цікавымі на беларускай мове.

Без адраджэньня беларускай мовы, гісторыі і культуры ня будзе ў Беларусі ні свабоды, ні дэмакратыі.

**Прынята на Радзе Таварыства беларускай культуры ў Літве**
**6 верасьня 2005 года.**

## Лясная гаспадарка па-трохі беларасізуецца






Па-трохі, па-трохі, а ўздоўж беларускіх дарог з'яўляюцца маляўнічыя пано, якія належаць розным лясніцтвам і лясгасам з надпісамі на беларускай мове.

**На здымках:** пано Скідзельскага лясніцтва Скідзельскага лясгасу каля Гарадзенскага паста ДАІ на трасе Гародня-Ліда і пано Лідскага лясніцтва каля паварота на Феліксава на той жа трасе.

## РУСІФІКАЦЫЯ НЕ МУСІЦЬ БЫЦЬ ПАЛІТЫКАЙ ЕЎРАЗВЯЗУ

***Сойм Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" і Кансерватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ 11 верасня 2005 г. прыняў заяву "Русіфікацыя ня мусіць быць палітыкай Эўразьвязу", у якой у прыватнасці гаворыцца:***

"Русіфікацыя ня мусіць быць палітыкай Эўразьвязу. Тое, што пасьля пратэсту беларусаў супраць вяшчаньня на Беларусь "Нямецкай Хвалі" па-расейску Эўракамісія аб'явіла новы тэндар пра вяшчаньне на Беларусь зноў на расейскай мове, вьведчыць аб поўным неразуменьні ёй сытуацыі ў Беларусі і ў цэлым ва Ўсходняй Эўропе. Гэта паказвае таксама на нежаданьне сытуацыю разумець.

Гэта дрэнна, бо сьведчыць, што Эўразьвяз перастае быць перспэктыўным палітычным лідэрам ў Эўропе і дзеля інтарэсаў бізнэсу вялікіх мэдыякампаніяў адмаўляецца ад падтрымкі асноўных каштоўнасьцяў свабоды, нацыі і дэмакратыі на ўсходзе Эўропы...

... Беларуская мова ў Беларусі – гэта галоўная каштоўнасьць народа, незалежнасьці, дэмакратыі і свабоды. За беларускую мову змагаліся цэлыя пакаленьні беларусаў, расейцы расстралялі за мову сотні беларускіх пісьменьнікаў і тысячы беларускіх людзей.

Цяпер ў пуцінскай Расеі афіцыйны расейскі друк піша наступнае: "Белорусский язык – язык международного общения подонков" («Ежедневные новости» - Владивосток - 2005 г., 26 августа). І ніхто там гэтага не камэнтуе, не крытыкуе, не просіць прабачэньня за дзікунства. Гэта ёсць пуцінская палітыка. Эўразьвяз падтрымлівае гэта?

Палітыкі Эўразьвязу, не разумеючы дэмакратычную Беларусь, не разумеюць таксама таго, што яны робяць стаўку ў Беларусі на былых савецкіх цемрашалаў, якія дэкляруюць цяпер дэмакратычную фразэалёгію, на рускіх генэралаў – душыцеляў свабоды ў Беларусі і Летуве, на адпады ад групы Лукашэнкі, якія сталі гаварыць пра дэмакратыю за заходнія грошы і не зрабілі літаральна нічога дзеля гэтай дэмакратыі, волі і свабоды Беларусі.

Усё гэта беларусы маглі цярпець, але русіфікацыі з Захаду цярпець ніхто ня будзе. Палітыкі Эўразьвязу робяць вялікую памылку. Калі справа гэтак пойдзе далей у ігнараваньні беларускай мовы, то дэмакратычная Беларусь будзе вымушана прыняць кардынальныя рашэньні наогул аб мэтазгоднасьці інфармацыйнай дапамогі з Захаду.

Мы – Народны Фронт, палітычная арганізацыя, якая ў 90-х гадах без нічыёй дапамогі вярнула незалежнасьць і магчымасьці дэмакратыі ў Беларусі. Мы заяўляем пра наступствы з поўным веданьнем справы.

Руская мова ў Беларусі – гэта ... сродак русіфікацыі і ўціску на Беларусі. Нам патрэбнае беларускае вяшчаньне.

Мы лічым (і маем ужо практычны досвед), што найлепш каб вяшчаньне на Беларусь на беларускай мове дапамаглі нам арганізаваць нашыя суседзі: Польшча, Украіна, Латвія, Летува. Мы маем з імі разуменьне і добрыя кантакты. Тым больш, што Польшча і Летува маюць ужо практыку і тэхнічныя магчымасьці.

Мы спадзяемся, што Эўракамісія перагледзіць недасканалыя ўмовы тэндару і будзе арыентавацца на падтымку вольнай Беларусі..."

**3 кастрычніка 2005 года аднаўляюцца гістарычныя семінары ў сядзібе ТБМ на Румянцава, 13 у Менску.**
**Весці семінары будуць слынныя беларускія гісторыкі і пісьменнікі: Уладзімір Арлоў, Вольга Іпатава, Кастусь Тарасаў, Анатоль Грыцкевіч, Захар Шыбека, Віталь Скалабан і інш.**
**Больш дакладную інфармацыю можна атрымаць у сядзібе ТБМ.**

# Светлагорская арганізацыя ТБМ: верасень 2003 – жнівень 2005.

**Справаздача рады да IX канферэнцыі Светлагорскай арганізацыі ТБМ (асноўны змест).**

## 1. Развіццё арганізацыі.

Сябры і суполкі. Папярэдняя, VIII канферэнцыя Светлагорскай раённай арганізацыі ТБМ (далей – "арганізацыя") была праведзена 30 верасня 2003. Дэлегатам папярэдняй канферэнцыі Гомельскай абласной арганізацыі ТБМ і папярэдняга, VIII-га з'езду ТБМ ад нашай арганізацыі з'яўляўся А. Харланчук. На той час арганізацыя складалася з 3-х суполак (першасных арганізацый), якія дзейнічаюць і цяпер. З іх 2 суполкі – тэрытарыяльныя, па месцы жыхарства: суполка № 1 – сябры, якія жывуць у Маладзёжным мікрараёне г. Светлагорска і вёсцы Дуброва Светлагорскага раёна; суполка № 2 – сябры, якія жывуць у іншых мікрараёнах, вуліцах г. Светлагорска (м-ны 1, 2, 6, 6А, пасёлак Светач, вул. Інтэрнацыянальная). Адна суполка дзейнічае па месцы працы яе сяброў – на рэспубліканскім унітарным прадпрыемстве "Светлагорскае вытворчае аб'яднанне "Хімічнае валакно". Старшыні гэтых суполак дзейнічалі на працягу ўсяго справаздачнага перыяду.

У 2004 удакладнены склад сябраў. У спіс унесены сябры, якія пацвердзілі свой удзел у ТБМ, склалі заявы. Іншыя асобы - хто раней, напрыклад, прысутнічаў на сходах - могуць быць прыхільнікамі ТБМ і браць удзел у акцыях, мерапрыемствах. Выдадзены пасведчанні і значкі сябрам, якія іх не мелі (новым сябрам уручаюцца па меры афармлення). Сяброўскія складкі ў справаздачным перыядзе ўнесеныя ў поўным памеры. У далейшым дзеля дакладнага ўліку мэтазгодна пацвярджаць сяброўства заявамі раз на 3 гады (такі тэрмін дзеяння заяваў аб сяброўстве ў грамадскіх аб'яднаннях).

У 2004 г. маладыя сябры (ўсе ўваходзілі ў суполку № 1) утварылі новую суполку – моладзевую (дзейнічае па ўсёй тэрыторыі раёна). Такім чынам, цяпер у арганізацыі - 4 суполкі.

Ва ўсіх суполках (акрамя суполкі на прадпрыемстве "Хімвалакно") прынятыя новыя сябры. Прыём у ТБМ новых сяброў адбываўся ў асноўным на сходах суполак, а ўручэнне пасведчанняў – на паседжаннях рады. Колькаснае павялічэнне сяброў адбылося ў моладзевай суполцы і суполцы № 2, а ў суполцы № 1 зменшылася ў выніку пераходу часткі сяброў у моладзевую суполку. Практыка паказвае, што тэрытарыяльныя (па месцы жыхарства) суполкі ў нашай арганізацыі найбольш эфектыўныя ў складзе 5 - 10 сяброў. І паколькі суполка № 2 ахоплівае вялікую тэрыторыю - ад вул. Інтэрнацыянальнай да пас. Светач, паўстала пытанне аб утварэнні яшчэ адной суполкі – напрыклад, у м-нах 1, 2 і па вул. Інтэрнацыянальнай. Ва ўсёй арганізацыі колькасць сяброў павялічылася ў 1,7 разы.

Напярэдадні цяперашняй канферэнцыі ў суполках праведзеныя сходы па справаздачах і выбарах. У наступны перыяд мэтазгодна наладзіць перыядычныя 1-дзённыя семінары (па 2 – 4 гадзіны) для старшыняў суполак, іх намеснікаў, сакратароў па пытаннях дзейнасці грамадскага аб'яднання.

### Дзейнасць рады.

На папярэдняй, VIII-ай канферэнцыі рада была абраная ў колькасці 5 сяброў (уключаючы старшыню), якія прадстаўлялі ўсе дзейныя на той час суполкі (акрамя суполкі на прадпрыемстве "Хімвалакно"). З 2004 г. паседжанні рады праводзяцца ў разліку 1 раз на месяц, на якіх абмяркоўваюцца і прымаюцца рашэнні, выдаюцца новыя пасведчанні. Найбольш актыўна ў дзейнасці рады бяруць удзел А. Харланчук (на пасяджэнні рады ў 2004 абраны намеснікам старшыні) і В. Болбас. Пры выбарах новага складу рады мэтазгодна: захаваць існы колькасны склад; выбраць у раду сяброў, якія: прадстаўляюць розныя суполкі, маюць дастатковы досвед грамадскай дзейнасці (у ТБМ – прынамсі, не меней 1 года), маюць магчымасць браць рэгулярны удзел у паседжаннях і іншай дзейнасці рады, найменш занятыя на кіраўнічых пасадах у іншых арганізацыях. У новым складзе рады варта больш акрэслена размеркаваць дзейнасць і адказнасць паміж сябрамі (у прыватнасці, акрамя старшыні і намесніка, мець сакратара, скарбніка).

### Інфармацыйнае забеспячэнне.

З 2004 выдаецца "Інфармацыйны бюлетэнь" (А-4) для інфармавання сябраў і партнёрскіх арганізацый аб асноўнай дзейнасці (2004 – 2 выпускі, у 2005 мяркуецца 3 выпускі). З 2005 сябрам і партнёрам, якія маюць электронныя адрасы, рассылаюцца "Паведамленьні" (інфармацыя аб планах, абвесткі). Сябры, якія не маюць электронных адрасоў, гэтую інфармацыю могуць атрымаць па тэлефоне ў старшыняў суполак. Асобныя тэмы дзейнасці арганізацыі асвятляліся ў газетах "Ранак-плюс", "Рэгіён-весткі", "Светлагорскі бізнес" (г. Светлагорск), "Новы дзень" (г. Жлобін), "Гомельская праўда", "Наша ніва", "Наша слова" і ў Інтэрнэце. У 2006 можна павялічыць памер "Інфармацыйнага бюлетэня" і колькасць выпускаў да 4 на год, варта стварыць грамадскую рэдакцыю бюлетэня і даць яму найменне. Дзеля эфектыўнага інфармавання важна пашырэнне колькасці сяброў, якія валодаюць карыстаннем камп'ютара і маюць электронныя адрасы.

### Асноўныя партнёры.

Плённае супрацоўніцтва ажыццяўлялася з грамадскім аб'яднаннем "Цэнтр інфармацыйнай падтрымкі грамадскіх ініцыятыў "Трэці сектар" (г. Гародня, старшыня – В. Руднік), недзяржаўнай некамерцыйнай установай "Агенцтва рэгіянальнага сацыяльна-эканамічнага развіцця "Палард" (дырэктар – А. Мазур), прадстаўніцтвам у Беларусі карпарацыі "Каўнтэрпарт", Злучаныя Штаты Амерыкі (Менск, дзейнічала да 2004), Светлагорскай арганізацыяй грамадскага аб'яднання "БНФ "Адраджэньне" (старшыня – В. Болбас).

### Актыўная дзейнасць.

Сярод асноўных акцый і мерапрыемстваў, якія праведзеныя арганізацыяй, найбольш адметнымі сталі наступныя.

- Студзень 2003 – люты 2004: 6 сустрэч прадстаўнікоў грамадскіх аб'яднанняў, бізнесу, журналістаў і актыўных грамадзян на тэму "Выяўленне мясцовых праблем" (сумесна з недзяржаўнай некамерцыйнай установай "Агенцтва рэгіянальнага сацыяльна-эканамічнага развіцця "Палард"), разам – 38 удзельнікаў.
- Чэрвень 2004: перадача аддзелу адукацыі выканаўчага камітэта Светлагорскага раёна кніг для школ (мастацкая літаратура для вучняў пачатковых класаў) - 368 асобнікаў.
- Чэрвень 2005: прэзентацыя ў г. Светлагорску кнігі "Беларусь – сцэнары рэформаў" з удзелам аднаго з аўтараў – выкладчыка сітуацыйнага аналізу кафедры міжнародных эканамічных адносін Беларускага дзяржаўнага універсітэта, кандыдата эканамічных навук М. Залескага (сумесна з міжнародным грамадскім аб'яднаннем "Таварыства Шумана") - 15 удзельнікаў.
- Лета 2004 і 2005: 2 чарговыя моладзевыя археалагічныя экспедыцыі (IX і X) на раскопках старажытнага гарадзішча ва ўрочышчы Гарадок, каля вёскі Адрубы Кабанаўскага сельскага Савета Жлобінскага раёна (сумесна з дзяржаўнай навуковай установай "Інстытут гісторыі Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі", г. Менск, навуковая кіраўніца экспедыцый – старшая навуковая супрацоўніца аддзела археалогіі жалезнага веку Інстытута гісторыі, кандыдат гістарычных навук Н. Дубіцкая), разам - 41 дабраахвотны удзельнік. Па выніках 15-дзённай экспедыцыі 2005 г. 9 удзельнікаў заахвочаны падзякамі за подпісам выканаўца абавязкаў дырэктара Інстытута гісторыі, доктара гістарычных навук, прафесара А. Кавалені.
- Чэрвень – ліпень 2005: 8-дзённы візіт групы прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый, бізнесу і журналістаў у Чэшскую Рэспубліку, для азнаямлення з сістэмай кіравання ў Чэхіі - 10 удзельнікаў.

Інфармацыя пададзена без уліку ўдзелу ў дзейнасці, якая праводзілася ТБМ у цэлым альбо іншымі грамадскімі аб'яднаннямі. Але варта адзначыць, што сябры арганізацыі сабралі 202 подпісы за захаванне памяшкання ТБМ у Менску, бралі ўдзел і ў зборах подпісаў за пашырэнне ўжывання беларускай мовы на чыгуначным транспарце і г. д.

З адметнага у краязнаўчай дзейнасці можна назваць наступнае. У траўні 2004 г. сябра суполкі № 2 А. Русіновіч на асабістым агародзе ў в. Іскра (Чыркавіцкі сельскі Савет) выявіў старажытную каменную сякеру. З находкай азнаёмілася старшая навуковая супрацоўніца аддзела археалогіі жалезнага веку Інстытута гісторыі, кандыдат гістарычных навук Н. Дубіцкая (якая курыруе археалагічныя даследванні ў нашым раёне). У 2005 г. пры ўдзеле сябра рады арганізацыі В. Болбаса выяўлены старажытны наканечнік жалезнай дзіды (знойдзены ў в. Якімава Слабада, Баравікоўскі сельскі савет), які затым абследаваны ў Інстытуце гісторыі Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі. Звесткі аб знаходках ўключаны ў навуковы зварот.

### Міжнародныя сувязі.

У чэрвені 2004 па запрашэнні рады арганізацыі адбыўся чарговы візіт у Беларусь Брайана Така – прадстаўніка клуба дзелавых людзей і інтэлігенцыі "Ротары" г. Рай (графства Усходні Сасэкс, Вялікабрытанія), які на працягу 6 дзён наведаў Светлагорскі, Брагінскі раёны і г. Менск для абмеркавання супрацоўніцтва і сустрэч з сем'ямі школьнікаў і студэнтамі, якія бывалі ў Вялікабрытаніі па запрашэннях актывістаў клуба "Ротары".

Акрамя візіту ў Чэхію, прадстаўнікі арганізацыі бралі ўдзел у візітах дэлегацый беларускай грамадскасці ў г. г. Кіеў і Чарнігаў (Украіна, кастрычнік 2004) і г. Лодзь (Польшча, снежань 2004 і травень 2005).

*Старшыня рады Т. В. Маслюкоў.*




---

Надоечы ў менскім выдавецтве "Радыёла-плюс" пабачыла свет адметная кніга "Яна і Я. Вершы і песні пра каханне". Анатацыя да кнігі паведамляе: "У зборнік увайшлі паэтычныя творы, складзеныя ў XII – XXI стагоддзях. Прысвечаны яны самаму светламу і жыццядайнаму чалавечаму пачуццю – каханню. Своеасаблівай інтрадукцыяй да зборніка сталася "Найвышэйшая песня Саламонава". Многія творы друкуюцца ў гэтым выданні ўпершыню. Адрасуецца самаму шырокаму колу чытачоў".

Пра тое, што канкрэтна стаіць за кароткімі анатацыйнымі звесткамі, а таксама пра некаторыя сакрэты той выдавецкай "кухні", дзе "гатавалася" гэтая вабная на погляд і прыемная на смак кніга, мы папрасілі распавесці аднаго з яе ўкладальнікаў - літаратара і дырэктара выдавецтва "Радыёла-плюс" Уладзіміра СІЎЧЫКАВА.

***– Уладзімір Мікалаевіч, шчыра кажучы, пасля таго, як у 2003 годзе Міхась Скобла выдаў сваю "Анталогію беларускай паэзіі XX стагоддзя" на 880 старонках і з 358 аўтарамі, мне думалася, што новых паэтычных анаталогій у бліжэйшы час прычакаць не давядзецца. Ды не праходзіць і двух гадоў, як з'яўляецца – "Яна і Я"...***

– А гэта не анталогія. Мы не ставілі перад сабой задачу ахапіць абсалютна ўсё – як не старайся, усё роўна не ахопіш. І лепшы доказ гэтай тэзы акурат Скоблава анталогія, якая, акрамя ўсяго іншага, дала падставу крыўдзіцца на яе ўкладальніка дзесяткам ці няўключаных, ці "не так, як трэба" прадстаўленых у ёй паэтаў... "Яна і Я" – гэта тэматычны зборнік. І першай звышзадачай укладальнікаў было якраз заняць вакантную дагэтуль нішу – вершы і песні пра каханне. Прызнацца, у працэсе падрыхтоўкі кнігі мы да апошняга не былі ўпэўнены, што яшчэ нехта з выдаўцоў не робіць тое самае. Дзякуй Богу, гэтыя мітрэнгі ўжо адышлі ў мінулае, ніхто нас не апярэдзіў, і сёння мы маем выкшталцоны томік вершаў і песняў пра каханне XII – XXI стагоддзяў, адрэцэнзаваны кандыдатам філалагічных навук, загадчыкам кафедры беларускай мовы і літаратуры Менскага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта Пятром Васючэнкам і выдатна аформлены народным мастаком Беларусі Арленам Кашкурэвічам.

***– Самае шырокае кола чытачоў, як пазначана ў анатацыі, – паняцце досыць няпэўнае... Якой усё-такі бачыце чытацкую аўдыторыю кнігі?***

– Як гэта ні парадаксальна гучыць, але патэнцыяльны чытач нашага зборніка – гэта і праўда



# Жыццядайная кніга... пра гэта

любы чалавек, а дакладней кажучы, той або тая, каму хочацца і можна зрабіць падарунак – ці да дня Святога Валянціна, ці да 8 сакавіка, ці да 23 лютага, ці да дня настаўніка (як бы мы ні ставіліся да гэтых святаў), ці з нагоды дня нараджэння, вяселля, улазінаў і г.д. Як вы ўжо здагадаліся, гэтакім падарункам і магла б быць кніга "Яна і Я", а чытачом у такім разе – брат (сястра), маці (бацька), сябар (сяброўка), калега (каляжанка), начальнік (начальніца), выкладчык (настаўніца), студэнт (вучаніца) – ды хто хочаш, бо, здаецца, няма або вельмі мала такіх людзей, якіх бы гэтая тэма хоць калі-небудзь не закранула... Больш за тое, у гэтай сувязі я агучу і другую звышзадачу, якую мы ставілі перад сабой, рыхтуючы зборнік. Разумею, што гэта можа ўспрымацца як жарт, але мне вельмі хацелася б, каб дзякуючы кніжцы "Яна і Я" знайшліся тры з паловай тысячы маладых пар (3500 – наклад зборніка, што па сённяшнім часе для паэзіі вельмі нямала), а з цягам часу нарадзіліся дзесяць тысяч маленькіх беларусікаў і беларусачак. І ў гэтым сэнсе згаданы ў анатацыі прыметнік "жыццядайнае" (пачуццё) мае літаральны сэнс: тое, якое дае жыццё... Для нас, беларусаў, колькасць якіх паводле некаторых звестак летась зменшылася на пяцьдзесят тысяч чалавек, гэта надзвычай актуальна...

***– З такіх разваг і нарадзілася ідэя стварыць зборнік? Наогул, як усё пачыналася?***

– Як сказала незабыўная Жэня Янішчыц у сваім класічным вершы, "пачынаецца ўсё з любві". А калі ўсур'ёз, дык непасрэдным штуршком ці пунктам адліку для нас паслужыў зборнік лірыкі "Зорка Венера", які ў 1972 годзе выдала выдавецтва "Мастацкая літаратура", а ўкладальнікам быў Мікола Аўрамчык. Кніга вельмі хораша прагучала ў свой час і сёння займае пачэснае месца на паліцах у многіх людзей, бо належыць да той катэгорыі кніжак, важкасць якіх не робіцца меншай з-за невялікіх аб'ёму і фармату.

***– Так, у маёй хатняй бібліятэцы таксама ёсць зборнік "Зорка Венера", і, яшчэ не гартаўшы ваш зборнік, я магу візуальна іх параўнаць. А чым прынцыпова адрозніваецца "Яна і Я" ад "Зоркі Венеры"? Якія найбольш выразныя адметнасці вашай кнігі?***

– Адрозненні – кардынальныя. І ў структуры, і ў змесце. Хаця, па шчырасці, спачатку мелі спакуса ўзяць Аўрамчыкаў зборнік ды проста дадаць да яго творы за трэць стагоддзя – з канца 1960-х да нашых дзён, а гэта як мінімум два, а то і тры літаратурныя пакаленні: "Тутэйшыя", Таварыства вольных літаратараў, нарэшце, Бум-Бам-Літ. Але потым у працэсе работы падумалася: а чаму толькі XX стагоддзе, а як жа папярэднікі? Урэшце разам з калегамі – літаратарамі і навукоўцамі, якія садзейнічалі падрыхтоўцы кнігі, сышліся на думцы – у якасці своеасаблівай прадмовы паставіць "Найвышэйшую песню Саламонаву" ў выдатным перакладзе Васіля Сёмухі (бо лепш за Саламона пра каханне ніхто за апошнія тры-чатыры тысячагоддзі, здаецца, не напісаў і наўрад ці ўжо напіша), а корпус уласна ўсходнеславянскіх і беларускіх тэкстаў пачаць з урыўка са "Слова пра паход Ігаравы", вядомага ў навуковым і побытавым звароце як "Плач Яраслаўны" (у перакладзе Янкі Купалы). І далей паводле храналагічнага прынцыпу: урывак з "Песні пра зубра" Міколы Гусоўскага, урывак з "Прускай вайны" Яна Вісліцкага, "Прадмова да паненак" з паэмы Радагляда Гладкатварскага "Румяны", "Слодыч" Сімяёна Полацкага – ажно да сённяшніх 18-гадовых творцаў. Асобным блокам напрыканцы змясцілі паўтара тузіна вядомых народных песень пра каханне. Дарэчы, момант песеннасці ў кнізе наогул вельмі істотны: многія ўключаныя ў яе творы, прычым не толькі народныя, але і аўтарскія, пазнаюцца менавіта дзякуючы іх музычным увасабленням. А ў некаторых выпадках, як, напрыклад, у выпадку песні "Ручнікі" (памятаеце? – "У суботу Янка ехаў ля ракі...") некаторых чытачоў чакае адкрыццё: у гэтай песні, якую яны лічаць народнай, аказваецца, ёсць рэальны аўтар – паэтка Вера Вярба.

Акрамя гэтага, мы змяшчаем невялікі дадатак "Тлумачэнне слоў і паняццяў" (каб недасведчаны чытач не падумаў, што, напрыклад, віланэля – ёсць такая разнавіднасць лірычнага верша – гэта імя дзяўчыны) і імянны паказальнік (для зручнасці карыстання зборнікам). Гэтага ў кнізе "Зорка Венера" таксама не было.

Нарэшце, нельга не сказаць і пра вельмі істотнае адрозненне ў напаўненні саміх паэтычных падборак, у тым ліку тых аўтараў, якія фігуруюць і ў "Зорцы Венеры", і ў нашым зборніку. Мы ўсё ж імкнуліся адштурхоўвацца ад таго рэальнага ўнёску, які зрабіў той ці іншы паэт у распрацоўку тэмы кахання. А таму невыпадкова найбольшая "ўдзельная вага" ў зборніку ў Максіма Багдановіча (адзінаццаць вершаў), некалькі важкіх развbabaротаў аддадзена ў кнізе Леаніду Дранько-Майсюку, імя якога асацыіруецца ў свядомасці чытачоў з інтымнай лірыкай як такой (узгадаем яго знакаміты цыкл "Вершы да А.")...

***– У анатацыі да кнігі "Яна і Я" заяўлена, што "многія творы друкуюцца ў гэтым выданні ўпершыню"...***

– І гэта сапраўды так. У кнізе ёсць шмат новых твораў і нават імёнаў, якія ўпершыню ўводзяцца ва ўжытак беларускай літаратуры. І, напэўна, тут самы яскравы прыклад Радагляда Гладкатварскага, адкрыццё якога для беларускага чытача зрабілася магчымым дзякуючы сям'і даследчыкаў і літаратараў Сяргея Кавалёва і Наталлі Русецкай. Яны адшукалі ў Польшчы невялікі тэксцік на дваццаць радкоў – прадмову да выдадзенай у 1605 годзе паэмы "Румяны" (своеасаблівы вершаваны даведнік па касметыцы), аўтарам якой і быў Радагляд Гладкатварскі. Адна літаратарка, упершыню ўбачыўшы гэтае імя ў кнізе, усё дапытвалася ў мяне: "Ну, прызнайся, гэта містыфікацыя?" Не, гэта не літаратурная містыфікацыя. Гэта – рэальная архіўная знаходка. І калі ўжо працягнуць думку пра новае, змешчанае ў зборніку, дык не магу не згадаць і пра тое, што акрамя новых імёнаў, мы ўводзім і некаторыя новыя паэтычныя формы.

***– Напрыклад?***

– Напрыклад, баркарола. Гэта, як паведамляе наш паэтычны міні-слоўнічак у канцы кнігі, вакальны або інструментальны твор у стылі песень венецыянскіх гандальераў з лірычнай мелодыяй і музычным суправаджэннем, у якім чуецца плёскат хваляў; а само слова паходзіць ад італьянскага barca (лодка). У нашай старадаўняй літаратуры баркарола адшукалася ў польскамоўнага паэта XIX стагоддзя Юльяна Корсака, твор якога бліскуча ўзнавіў па-беларуску Андрэй Хадановіч.

Або, калі браць ужо сённяшні час, малады літаратар Глеб Лабадзенка вынайшаў адмысловую форму – пагер-верш (ад англійскага pager – пэйджар). Зразумела, што пагер-вершаў нават па чыста тэхнічных прычынах не магло быць яшчэ якіх дзесяць гадоў назад, бо не існавала саміх пэйджараў. Дазнаўшыся пра існаванне такой экстравагантнай паэтычнай формы, мы, натуральна, не змаглі ўстаяць перад спакусай уключыць у зборнік два пагер-вершы, захаваўшы ўсе асаблівасці іх графічнага афармлення, абумоўленыя тэхнічнымі магчымасцямі пэйджара (адсутнасць вялікіх літараў, "і" – "1", "ў" – "у" і інш.).




Вы запытаеце, а навошта гэта трэба было рабіць. Але адным з нашых прынцыпаў падачы твораў якраз і было – тое, што той ці іншы верш або той ці іншы паэт дадае да агульнай карціны. Мы хацелі паказаць чытачу, наколькі багатая нашая інтымная паэзія, у тым ліку і ў сэнсе форматворчасці, жанравай ды стылявой разнастайнасці. Менавіта таму ў зборніку можна сустрэць і цэнтон, і брахікалан, і актаву, і хоку, і ўрыўвак з паэмы, і арыю з оперы...

Гэта як узоры самай цнатлівай высокай паэзіі на мяжы з філасофскай лірыкай, так і непрыхаваная эротыка. Скажу больш. Рыхтуючы кнігу, мы ў пэўным сэнсе бачылі яе як адмысловую ударную зброю: ты яшчэ сумняваешся, што ёсць паўнавартасная айчынная інтымная лірыка? Тады вось, калі ласка, трымай! І больш ніколі не камплексуй перад тымі ж расейцамі ці французамі з іх пушкінымі, цютчавымі і верленамі...

***– А ці зрабілі вы для сябе, так бы мовіць, глыбінныя адкрыцці, калі рыхтавалі зборнік? Магчыма, перачыталі па-іншаму некаторых паэтаў? Магчыма, адшукалі ў іх тое, на што не спадзяваліся?..***

– Такіх адкрыццяў насамрэч было шмат. Узяць, напрыклад, таго ж Казіміра Сваяка, якога мы ведаем як аўтара духоўнай паэзіі, каталіцкага святара. Нават прафесар Васючэнка, калі пазнаёміўся з кнігай, не пераставаў здзіўляцца: "Як вы знайшлі ў ксяндза любоўныя вершы?!" А яны сапраўды ёсць. Пачытайце, калі ласка, яго "Эрас і Псіхею" або верш "Не чаруй":

*Не чаруй мяне ты зорам,*
*Не чаруй красой;*
*Не чаруй сваім ты горам,*
*Не чаруй слязой.*

*Не чаруй ядвабнай коскай,*
*Ні вусноў агнём...*
*Не чаруй усмешкай боскай,*
*Ні святым жыццём.*

*Не чаруй дзявочым станам,*

*Не чаруй грудзьмі...*
*Каб не быў я пакараны*
*Богам і людзьмі.*

Або той жа Анатоль Сыс. Здавалася б, шаманскі, паганскі паэт, якое там каханне... А ўчытайцеся ў ягоны "Пацір":

*Кахаю –*
*вочы прачыталі,*
*Кахаю –*
*вусны прашапталі,*
*Кахаю –*
*душы прастагналі,*
*Кахаю –*
*людзі закрычалі.*

*Каго?*

*Паэт сказаў: Айчыну!*
*Жаўнер: дзяўчыну!*
*Хтось: сябе!*

Ці, скажам, ягонае ж перастварэнне з народнага "Чорная гадзюка, белая змяя":

*З белаю гадзюкай*
*буду баляваць,*
*а па чорнай змейцы*
*тайна гараваць.*

Невыпадкова гэты верш Пятро Васючэнка ўключыў у спіс лепшых беларускіх твораў пра каханне.

А якое арганічнае спалучэнне класічнай формы (санета) і надзвычай вытанчанай эротыкі мы бачым у "Дзікай ружы" гарадзенскага паэта Юрася Пацюпы! Гэта ж найвышэйшы ўзровень эратычнай паэзіі:

*На моих глазах сечена девица, вопервых розгами, потом шиповником...*
Г. Конисский

*...загадалі яму трымаць за ногі Магдалену, каторая ўвесь час, як яе білі, плакала, паказваючы яму ўсе свае „сакрэты".*
А. Абуховіч

*Маркіз дэ Сад*
*укладваў каталог*
*сухіх*
*метафізічных экзекуцый*
*і так у працу дзікую залёг,*
*перабіраючы*
*даўнейшыя паскудствы*
*усіх краёў, народаў і эпох,*
*што нават ён,*
*дазнаны ў той навуцы,*
*прызнаны мэтр,*
*стаміўся ды знямог*
*і меўся ўжо спаліць*
*натхненне ў грубцы...*
*Аднак – архіў*
*тутэйшы напаткаў,*
*і слёзы пацяклі ў яго, а сліна*
*юрлівая сачылася між спраў.*
*Эстэцтвам*
*і эротыкай ліцвінаў*
*захоплены –*
*маркіз адно шаптаў:*
*"О, Беларусь,*
*мая шыпшына!.."*

***– І ўсё-такі, нягледзячы на ўвесь высокі палёт паэтыкі Пацюпы ды іншых аўтараў, укладзеная вамі кніга распавядае па вялікім рахунку не пра што іншае, а менавіта... пра гэта. З гэтага пункту гледжання, наколькі вы "асцярожнічалі" ў выбары твораў, наколькі для сябе як укладальніка апусцілі ці завысілі планку дазволенага ў прыгожым пісьменстве?.. Бо не сакрэт, што ў нашай літаратуры апошнім часам з'явілася нямала надзвычай "откровенных" твораў гэтай тэматыкі, і калі зыходзіць з прынцыпу "тое, што дадае"...***

– Пры складанні зборніка "Яна і Я" мы прытрымліваліся досыць кансерватыўных поглядаў, і ніякай пашляціны і тым больш парнаграфіі чытач там не знойдзе. Тое ж, пра што вы кажаце, апошнім часам і праўда досыць часта мільгае ў нашай "літаратуры". Што ж, калі некаторыя з аўтараў такім чынам хочуць узвысіць сваё імя – ну, як кажуць, і сцяг ім у рукі. Толькі чамусьці, нягледзячы на ўсе іх парыванні "закасіць" пад таго ж Генры Мілера ці Чарлза Букоўскі, адчуванне такое, што гэта ўсё не сталая літаратура, а брутальныя запісы жыццёвых назіранняў... Прачытаеш – і толькі паціскаеш плячыма. А пра сябе думаеш: у жыцці столькі бруду – навошта яшчэ цягнуць яго ў літаратуру?

Ды як за нейкім адхланнем рука міжволі пацягнецца да томіка Багдановіча, каб працытаваць:

Мілая, згадай:
Веяла цёплай вясной,
І вішні цвілі.
Калыхнуў я галіну, –
Белы цвет асыпаў нас.

***– Вялікі дзякуй за гутарку.***

# “Вечна жыць вам, Купала і Райніс...”

## (да 140-годдзя з дня нараджэння Яна Райніса)

14 верасня Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы наладзіў імпрэзу “Янка Купала і Ян Райніс”, прысвечаную 140-годдзю з дня нараджэння паэта, перакладчыка, драматурга, філосафа Яна Райніса. Невыпадкова, што імпрэза ў гонар Яна Райніса адбылася ў музеі Янкі Купалы. Янка Купала і Ян Райніс – гэта сімвалы сваёй нацыі. Яны стаяць у сусветнай мастацкай літаратуры як магутныя вежы-волаты. Аляксей Пысін пісаў: *“Паэзія Яна Райніса ў самым галоўным яе вызначэнні сугучна паэзіі нашага Янкі Купалы, і я ў сваіх адносінах да Янкі Купалы і Яна Райніса – стаўлю іх побач.*

***Дэшы ў песню прыбраць***
***песня раіць,***
***З песняй дэшы***
***здаўна дружбакі,***
***Вечна жыць вам,***
***Купала і Райніс,***
***Янку й Яну – вянкі, вянкі”.***

Ян Райніс (сапраўднае імя Яніс Пліекшан) — нарадзіўся 11 верасня 1865 года на хутары Варславаны (фальварак Тадэнаве недалёка ад Ілукстэ). Спачатку вучыўся ў мясцовага святара, потым скончыў Грыўскую школу каля Даўгаўпілса, Рыжскую гарадскую гімназію. Варта дадаць, што ў сям’і Пліекшанаў гаварылі на васьмі мовах і дыялектах. Далейшая дарога жыцця завяла Райніса ў Пецярбург, дзе ён вучыўся ва ўніверсітэце на юрыдычным факультэце. Па заканчэнні ўніверсітэта Райніс працаваў у Віленскім акруговым судзе, пазней стаў адвакатам у Елгаве, а ў снежні 1891 года стаў рэдактарам газеты “Dienas Lapa”. У траўні 1897 года Райніса арыштавалі. Сем цяжкіх месяцаў ён правёў у розных турмах. 31 сакавіка 1899 г. Райніса як «палітычнага злачынцу» асуджаюць на высылку і пасяленне ў Вяцкую губерню. Калі пачаліся рэпрэсіі ў снежні 1905 года, Райніс быў вымушаны развітацца з радзімай. Разам з жонкай Аспазіяй (сапраўднае імя – Эльза Пліекшан) ён эміграваў у Швейцарыю і нелегальна жыў у Цюрыху, пасля ў Кастанёле. У ссылцы ці на другой радзіме Райніс пражыў 15 гадоў. У Латвію Райніс трапіў толькі ў 1920 годзе. Ён – дэпутат Устаноўчага сходу Латвіі (1920), дэпутат Сейма (1922 – 1929), дырэктар Нацыянальнага тэатра (1921 – 1925), міністр



*Майра Мора*

асветы (1926 – 1928), старшыня Таварыства культурнага зближэння народаў Латвіі і СССР, якое па яго ініцыятыве заснавалася ў 1929 годзе. Пры ўдзеле Райніса ў 1922 годзе ў Даўгаўпілсе адкрылася першая беларуская гімназія, якая ў далейшым стала цэнтрам асветы латышскіх беларусаў. Драматычным гуртком гімназіі пад кіраўніцтвам Паўліны Мядзёлкі была пастаўлена п’еса Янкі Купалы “Паўлінка”.

Да канца свайго жыцця Ян Райніс спрыяў справе беларусаў у Латвіі. Адметнасцю культурных узаемаадносінаў таго часу стала заснаванне ў 1921 годзе ў Латвіі сеткі беларускіх школ, гімназій, тэатраў, выдавецтваў.



*Сяргей Панізнік*

І яшчэ адно, што моцна лучыць Яна Райніса з Беларуссю. Яму выпала нарадзіцца на сумежжы трох дзяржаў і ўвабраць з маленства іх культуру — латышскую, літоўскую і беларускую. Маці Яна Райніса — Дарта Пліекшан — паходзіць са старажытнага роду Грыкоўскіх.

Пра моцную сувязь Райніса з беларускай культурай сведчыць тое, што ён быў, фактычна, выхаваны на беларускай народнай песні. Ад маці Ян Райніс увабраў у сваю душу беларускія народныя песні і пазней перакладаў іх на латышскую мову. Ён цікавіўся гістарычнымі сувязямі беларускага, латышскага і літоўскага народаў. Вывучаў беларускую мову, выношваў задуму аб напісанні гістарычнай драмы “Беларусы”, да якой збіраў беларускі фальклор і прыцягнуў да гэтага беларускіх настаўнікаў у Латвіі. Уладзіслава Францаўна Луцэвіч, жонка Янкі Купалы, піша: “*При его содействии была поставлена пьеса Я. Купалы «Паўлінка» в Риге, Двинске и Люцинге*”.

Лёс паяднаў Райніса з нашай зямлёй і тым, што тут знайшла свой апошні прытулак яго маці. Яна памерла ў 1899 годзе ў Віцебску, дзе і пахавана. У 1991 годзе пры ўваходзе на Стара-Сямёнаўскія могілкі ў Віцебску быў устаноўлены ў гонар маці Райніса памятны знак. І сам ён быў у Віцебску ў 1926 годзе на адкрыцці Другога беларускага драматычнгаа тэатра.

Знаёмства Янкі Купалы і Яна Райніса адбылося ў 1926 годзе, калі Райніс прыехаў у Менск па запрашэнню Інбелкульта да ўдзелу ў канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі. Райніса прынялі як шчырага і даўняга сябра. Але, вядома ж, Райніс і Купала ведалі адзін аднаго значна раней. Ян Райніс цікавіўся творчасцю нашых паэтаў, і перш за ўсё Янкі Купалы і Максіма Багдановіча, быў знаёмы з Францішкам Багушэвічам. Дзякуючы яго перакладу Купалу ведалі ў Латвіі ўжо з 1927 года.

Уладзіслава Францаўна Луцэвіч, жонка Янкі Купалы, у 1955 годзе ў газеце “Зорька” апублікавала артыкул “Ян Райнис в Белоруссии” да 90-годдзя з дня нараджэння паэта, дзе яна піша: *“Пребывание Яна Райниса в Минске углубило и укрепило дружбу Яна Райниса и Янки Купалы. Поэт проявил глубокий интерес к творческим планам Я. Купалы. Он восторженно отзывался о переводе Я. Купалой замечательного литературного памятника русского народа — «Слова о полку Игореве».*

*В дни пребывания в Минске поэт был частым гостем в нашем доме. Янка Купала знакомил Райниса со своей библиотекой, с редкими книгами, в которых были собраны произведения народного творчества. Эти вечера, на которых часто присутствовал и народный поэт Я. Колас, проходили в теплой и дружеской обстановке. Поэты делились своими творческими замыслами, играли в шахматы.*

*Групповые фото, на которых запечатлены некоторые из этих встреч, бережно хранятся в музее Я. Купалы”.*



*Дзіяна Філіповіч, вядоўца вечарыны*

19 лістапада 1926 года адбылася сустрэча Райніса з маладымі літаратарамі. *«Сустрэча была не доўгай, але сардэчнай,*— успамінаў Кандрат Крапіва.— *На заканчэнне гэтага вечара з’явіўся ўсім вядомы фотаздымак. Яніс і Янка Купала як быццам сімвалізуюць літаратурную дружбу двух братніх народаў, а мы, маладое пакаленне беларускіх літаратараў, з’яўляемся працягам слаўных традыцый народных пісьменнікаў...»*



*Васіль Сёмуха*

Янка Купала таксама наведваў Латвію. 14 чэрвеня 1941 года пачаўся Першы з’езд латышскіх пісьменнікаў. На яго быў запрошаны і Янка Купала. Яніс Ніедрэ, празаік, фальклярыст знаёміў Янку Купалу з Рыгай, Юрмалай, Сігулдай, потым пакінуў цікавыя ўспаміны пра Янку Купалу.

Гасцей вечарыны “Янка Купала і Ян Райніс” прывітаў Узорны цымбальны аркестр “Абярог” Рэспубліканскага каледжа мастацтваў імя Івана Ахрэмчыка пад кіраўніцтвам Алены Аўраменкі. Дырэктар музея Сяргей Вечар распавёў пра сувязі нашых народаў, якія не абмяжоўваюцца дзесяткамі гадоў, а сягаюць у глыбіню стагоддзяў. Надзвычайны і Паўнамоцны Амбасадар Латвіі ў Рэспубліцы Беларусь Майра Мора падкрэсліла, што нам выпала працягваць распачатае продкамі, мацаваць нашу дружбу. Нельга забывацца на лепшыя старонкі з мінуўшчыны, з нашай сумеснай гісторыі. Ды і постаці Янкі Купалы і Яна Райніса, двух выбітных сыноў вялікіх народаў, стануць гарантам супольнай працы ў будучыні. Заслужаны артыст Украіны і Беларусі, беларускі латыш Арнольд Ранцбнц распавёў цікавую гісторыю з свайго жыцця і выканаў песню.

Творы Яна Райніса перакладаюцца на нашу мову з 1927 г. Першыя пераклады былі зроблены беларусамі, якія жылі ў Латвіі: Якубам Воркулем, Валянцінай Казлоўскай, Пётрам Масальскім. Сярод перакладчыкаў Яна Райніса вылучаецца Васіль Сёмуха, Кавалер Ордэна Трох Зорак Латвійскай Рэспублікі, які быў запрошаны на вечарыну.

Ёсць людзі, якія “цягнуць воз дружбы народаў”, наладжваюць новыя кантакты, даследуюць культуру, вывучаюць традыцыі і гісторыю. Менавіта на энтузіястах пабудавана работа і культурных таварыстваў. З дапамогаю гэтых людзей у розных установах ладзяцца імпрэзы, канферэнцыі, сустрэчы, выстаўкі. Такім чалавекам з’яўляецца паэт Сяргей Панізнік, старшыня таварыства “Беларусь—Латвія”, Кавалер Ордэна Трох Зорак Латвійскай Рэспублікі. Шмат цікавага расказаў Сяргей Сцяпанавіч пра даўнія сувязі нашых продкаў з латышамі. Сярод паэтаў, якія прысвячалі вершы Яну Райнісу вылучаецца Уладзімір Мазго, які выказаў свае думкі пра латышскага Песняра. Цікава было пачуць песню з мілагучнай мовай суседняга народа ў выкананні Латышскага таварыства “Аўсекліс”.



*Узорны цымбальны аркестр “Абярог”*

Не першы раз музей Янкі Купалы ладзіць імпрэзу ў гонар Яна Райніса. У 1996 годзе ў музеі прайшла выстаўка “У сугуччы культур: Купала і Райніс”. Выстаўка атрымалася вельмі грунтоўнай. Былі прадстаўлены архіўныя матэрыялы з фондаў музея Янкі Купалы і асабістага архіва пісьменніка Сяргея Панізніка. Выстаўка мела некалькі раздзелаў: сяброўства Янкі Купалы і Яна Райніса, беларусы ў Латвіі ў XX стагоддзі, Ян Райніс і Беларусь. Сёлета таксама была падрыхтаваная невялікая выстаўка да гэтай падзеі. Выстава прадстаўляла матэрыялы, якія сведчаць не толькі пра ўзаемаадносіны паміж паэтамі, але і пра культурніцкія стасункі паміж нашымі народамі на працягу многіх дзесяцігоддзяў.

Імпрэза паспрыяла бліжэйшаму знаёмству з нашымі суседзямі, разуменню іх характару, нацыянальнай псіхалогіі. У нашых друкарнях выходзілі кнігі Яна Райніса, ёсць у Менску вуліца, названая яго імем. Ёсць надзея, што традыцыі культурнага ўзаемадзеяння паміж нашымі народамі будуць развівацца і надалей.

***Дзіяна Філіповіч,***
***старшы навуковы супрацоўнік Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы.***





Анатоль Грыцкевіч

# Праваслаўная царква ў Беларусі ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны

Рэлігійная сітуацыя ў Беларусі перад пачаткам Вялікай Айчыннай вайны значна розрнілася на ўсходзе і захадзе рэспублікі. На тэрытоорыіі БССР у 30-я гг. пасля масавых рэпрэсій супраць Праваслаўнай царквы 1933, 1935 і 1937-1938 гг. былі растраляны, у тым ліку і ў Курапатах, праваслаўныя святары і найбольш актыўныя вернікі. Частка святароў і вернікаў адпраўленыя ў папраўча-працоўныя лагеры. Каля 2 тысяч духоўных асоб былі растраляныя ці загінулі ў лагерах [1, с. 179].

Улетку 1939 г. была зачынена апошняя ў Менскай епархіі царква, што знаходзілася ў Бабруйску на могілках [2, с. 12]. У канцы 30-х гг. царкоўнае жыццё ў БССР амаль цалкам спынілася. У 1939 г. на тэрыторыі БССР дзейнічала толькі дзве царквы [3, с. 199].

Іншае становішча Праваслаўнай царквы было ў Заходняй Беларусі, далучанай да СССР у лістападзе 1939 г. пасля заняцця гэтай тэрыторыі Чырвонай арміяй у другой палове верасня 1939 г. У той час у Заходняй Беларусі існавалі 542 цэрквы і было 606 праваслаўныя святароў. Савецкая ўлада ўзяла пад свой кантроль структуру Праваслаўнай царквы на гэтай тэрыторыі. У ліпені 1940 г. Маскоўская Патрыярхія (месцазахавальнікам Патрыяршага пасаду быў мітрапаліт Маскоўскі Сергій (І.М. Страгародскі) прыслаў з Масквы мітрапаліта Мікалая (Б.Д. Ярушэвіча) з тытулам Экзарха для Заходняй Беларусі, мітрапаліта Кіеўскага і Галіцкага. У пачатку Вялікай Айчыннай вайны мітрапаліт Мікалай быў у Маскве. Там і застаўся.

Архіепіскап Панцеляймон (П.С. Ражкоўскі), які раней не прызнаваў аўтакефаліі Праваслаўнай царквы і знаходзіўся ў стане спачынку ў Жыровіцкім манастыры, быў прызначаны архіепіскапам Гарадзенскім і Вілейскім. 30 сакавіка 1941 г. у сан епіскапа быў пасвечаны архімандрыд Венядыкт (Бабкоўскі), вікарый Гарадзенска-Вілейскай епархіі. Епіскапам Пінскім і Палескім у першай палове чэрвеня 1941 г. быў прызначаны Веніямін (В. Навіцкі), раней архімандрыд Пачаеўска-Успенскай лаўры (у Цярнопальскай вобласці). Адначасова са зменамі ў царкоўнай епархіі карныя органы праводзілі чыстку сярод мясцовага духавенства, яго арышты і высылкі [3, 200-201].

Пасля акупацыі тэрыторыі Беларусі ўлетку 1941 г. нямецкія акупацыйныя ўлады скарысталі аўтарытэт Праваслаўнай царквы сярод часткі насельніцтва і спрыялі ўзнаўленню яе душпастырскай дзейнасці на тэрыторыі Усходняй Беларусі для заваёвы сімпатыі сярод часткі жыхароў-вернікаў.

Вернікі самі адчынялі цэрквы, а нямецкія ўлады не перашкаджалі ім у гэтым, а часам прысутнічалі пры адкрыцці цэркваў. Так, ужо ў дзень уступлення нямецкіх войск у Менск, 28 чэрвеня 1941 г., вернікі знялі замок і адкрылі Свята-Аляксандра-Неўскую царкву на вайсковых могілках,якая стаяла зачыненай ад лютага 1938 г. Ужо 6 ліпеня ў гэтай царкве адбылася першая літургія. У Менску зноў былі адчынены іншыя цэрквы. 4 жніўня 1941 г. пачалася служба ў царкве св. Марыі Магдаліны на Старажоўскіх могілках. 17 жніўня адкрыўся Спаса-Прэабражэнскі манастыр і ў яго галоўным храме адбылася першая служба. Узнавіла сваю дзейнасць Свята-Духавая царква. 2 лістапада аднавіліся набажэнствы ў царкве Казанскай Божай Маці ("прывакзальнай"). У снежні 1941 г. пачала дзейнічаць Свята-Екацярынінская царква на Нямізе. У першы год акупацыі ў Менскай епархіі аднавілася 120 прыходаў [1, с. 217]. Першым са святароў у Менск прыехаў з дапамогай палітычнай паліцыі праваслаўны іераманах Уладзімір Фінькоўскі з Пружанскага раёна. Ён узначаліў царкоўна-будаўнічы камітэт, які распачаў рамонт ацалелых цэркваў. Гарадская ўправа, створаная акупацыйнымі ўладамі, дапамагала камітэту ў гэтай дзейнасці. Таму менскія цэрквы хутка аднавілі царкоўныя службы. Сам Уладзімір Фінькоўскі ў жніўні распачаў багаслужэнні ў Прэабражэнскай царкве. Сучаснік падзей, інжынер Іван Касяк адзначыў, што іераманах Уладзімір Фінькоўскі паходзіў з беларуская сялянскай сям'і, аднак прапаведваў па-руску і трымаўся здалёк ад беларускай адміністрацыі. Трымаў ён сувязь толькі з немцамі [4, с. 264].

У другой палове верасня 1941 г. з Жыровічаў у Менск прыехаў епіскап Бенедыкт і сустрэўся з кіраўніком Менскай акруговай управы Р.Астроўскім для абмеркавання пытанняў арганізацыі царкоўнай структуры ў Беларусі. 6 кастрычніка 1941 г. узначаліў Беларускую Праваслаўную царкву мітрапаліт Менскі і ўсяе Беларусі Панцеляймон. Яго ўлада ўстанаўлівалася на тэрыторыі генеральнай акругі Беларусь і зоны тылу групы армій "Цэнтр". Падставай для арганізацыі царквы ў Беларусі стаў "Акт № 1 дзеяння Сабору Епіскапаў Беларускай Праваслаўнай Царквы ад 6 кастрычніка 1941 г.", падпісаны мітрапалітам Панцеляймонам і епіскапам берасцейскім Венядыктам [5, с. 272]. Гэтым актам архіепіскап Панцеляймон абвяшчаўся мітрапалітам.

Нягледзячы на ўпамінанне Беларускай Праваслаўнай царквы ў акце яе стварэння, фармальна аддзялення яе ад Маскоўскага патрыярхату не было. Беларуская Праваслаўная царква падчас вайны не падпарадкоўвалася ніякай іншай царкве. Хаця нямецкія ўлады мелі намер стварыць аўтакефальную праваслаўную царкву ў Беларусі, справа па яе стварэнні тармазілася самімі ўладыкамі. І мітрапаліт Панцеляймон , і епіскап Венядыкт былі настроены прарасейскі, а мітрапаліт Панцеляймон быў і расійскім манархістам. Такіх жа поглядаў прытрымліваўся і епіскап Венядыкт. Таму яны супраціўляліся аддзяленню Беларускай Праваслаўнай царквы ад Маскоўскага Патрыярхату, таксама як і беларусізацыі царквы. Разам з тым яны мусілі выконваць пастановы нямецкай адміністрацыі ў Беларусі. А афіцыйным лістом з генеральнага камісарыяту Беларусі (органа кіравання падлеглай генеральнаму камісарыяту тэрыторыі Цэнтральнай і часткі Заходняй Беларусі) ад 3 кастрычніка 1941 г. царкоўным уладам было прадпісана кіравацца наступнымі ўмовамі: пропаведзь, навучанне рэлігіі і справаводства ў Царкве павінны былі весціся на беларускай мове, багаслужэнне – на царкоўна-славянскай. Прызначэнне епіскапаў, дабрачынных і святароў павінна было адбывацца з ведама нямецкай улады. Праваслаўная царква ў Беларусі кіравалася паводле сваіх канонаў, а нямецкая ўлада не ўмешвалася ў яе ўнутрыцаркоўную дзейнасць [3, с. 201].

Для кіравання царквой ва Ўсходняй Беларусі, на тэрыторыі генеральнай акругі Беларусь і зоны тылу групы армій "Цэнтр" былі патрэбныя новыя епіскапы. Першым кандыдатам на епіскапскую кафедру стаў архімандрыд Філафей (Нарко), запрошаны з Варшавы. Епіскапскую хіратонію правялі ў Жыровіцкім манастыры 23 лістапада 1941 г. мітрапаліт Панцеляймон і епіскап Венядыкт. Новы епіскап атрымаў тытул епіскапа Слуцкага, вікарыя Менскай мітрапаліцкай епархіі. Пасля гэтага мітрапаліт Панцеляймон і епіскап Венядыкт 30 лістапада 1941 г. прыбылі ў Менск, дзе цяпер знаходзілася рэзідэнцыя мітрапаліта. Іх непрыязна сустрэў іераманах Уладзімір Фінькоўскі, якога падтрымлівала служба бяспекі (СД). Аднак нямецкія ўлады перавялі яго ў Варшаву [4, с. 277].

У 1941-1942 гг. была аднаўлена частка царкоўных прыходаў ва Усходняй Беларусі, сфармавана царкоўнае кіраўніцтва – спачатку мітрапаліцкая ўправа, потым Сінод. Узначальваў Беларускую Праваслаўную царкву мітрапаліт Панцеляймон. Яго памочнікам быў епіскап Берасцейскі, якому спачатку даручылі і Гарадзенскую епархію. Аднак 15 жніўня 1941 г. Беласток і Гародня з іх акругамі былі ўключаны ў склад Усходняй Прусіі (г.зн. у склад Райху), і сувязі гэтай тэрыторыі з Беларуссю вельмі ускладніліся. Нямецкія ўлады забаранілі кіраўніцтву Гарадзенскай епархіі зносіцца з Менскай мітраполіяй [3, с. 201].

У пачатку 1942 г. група беларускіх дзеячаў накіравала мітрапаліту Панцеляймону мемарандум з прапановай паскорыць правядзенне беларусізацыі Праваслаўнай царквы ў Беларусі. Мітрапаліт прыняў мемарандум, але не спяшаўся выконваць яго патрабаванні. Ведаючы пра расійскія і манархічныя перакананні мітрапаліта Панцеляймона, гэта група беларускіх дзеячаў звярнулася да нямецкай улады са скаргай на мітрапаліта. У выніку на пачатку лютага 1942 г. генеральны камісарыят Беларусі адхіліў мітрапаліта Панцеляймона ад царкоўнай улады і прымусіў яго перадаць кіраванне Царквою свайму вікарыю, епіскапу Слуцкаму Філафею, які меў рэзідэнцыю таксама ў Менску. Хаця мітрапаліт Панцеляймон заявіў пратэст, аднак вымушаны быў пазней, у чэрвені, ад'ехаць у вёску Ляды (Смалявіцкі раён), у былы манастыр [5, с. 273-276].

У сувязі з гэтым крызісам у кіраўніцтве Праваслаўнай царквы быў скліканы сабор епіскапаў, які пачаўся 3 сакавіка 1942 г. Удзельнікамі яго былі мітрапаліт Панцеляймон (як старшыня) і епіскапы Філафей і Венядыкт, а таксама з правам дарадчага голасу архімандрыд Афанасій, запрошаны мітрапалітам з Холмшчыны (паўднёвай часткі Люблінскага ваяводства) для заняцця епіскапскай кафедры. Сінод разгледзеў праект статута для Беларускай Праваслаўнай царквы. Паводле статута на тэрыторыі Беларусі ствар алася шэсць епархій: Віцебская, Гарадзенская, Менская, Магілёўская, Наваградская і Смаленская. У кожную з іх было вырашана прызначыць епіскапа: у Віцебскую – архімандрыта Афанасія з узвядзеннем у сан епіскапа Віцебскага і Полацкага, у Гарадзенскую – епіскапа Венядыкта з тытулам Гарадзенскага і Беластоцкага, у Магілёўскую – епіскапа Філафея з тытулам Магілёўскага і Мсціслаўскага, у Наваградскую – епіскапа Веніяміна Навіцкага з тытулам Наваградскага і Баранавіцкага (хаця ён па-ранейшаму знаходзіўся ў спачынку ў Пачаеўскай лаўры), у Смаленскую – прataіярэя Сямёна Сяўбо з пострыгам яго ў манаства і пасвячэннем у сан епіскапа з тытулам Смаленскага і Бранскага. Менскую епархію ўзначальваў сам мітрапаліт Панцеляймон, які атрымаў тытул мітрапаліта Менскага і ўсяе Беларусі, свяшчэнна-архімандрыта Жыровіцкага Свята-Успенскага манастыра. Намеснікам мітрапаліта быў абраны епіскап Філафей. Быў таксама абраны пастаянны Сінод на чале з мітрапалітам. У яго склад уваходзілі епіскапы Венядыкт і Філафей, а кандыдатам у Сінод быў прызначаны Афанасій, хіратонія якога была праведзена 8 сакавіка. У канцы саборных пасяджэнняў мітрапаліт Панцеляймон узвёў у сан архіепіскапа Венядыкта (па ўласным жаданні) і Філафея (па патрабаванні беларускіх палітычных дзеячоў). Сабор таксама прыняў пастановы аб адкрыцці духоўных семінарый у епархіях, аб выданні рэлігійнай літаратуры і царкоўнага часопіса, аб царкоўных пячатках для прыходаў. Пытанне аб аўтакефаліі Царквы было адкладзена да заканчэння вайны і вызначэння палітычнага становішча Беларусі. Пазней, 17 траўня 1942 г. быў пасвечаны ў епіскапы архімандрыд Стэфан (пратаіерэй Сямён Сяўбо, які быў удаўцом) [5, с. 274-275]. Гарадзенская епархія была аддзелена ад Беларускай Праваслаўнай царквы, бо яе тэрыторыя была ў 1941 г. уключана ў склад Германіі. Таму для Гарадзенскай епархіі была ўведзена аўтаномія (з епіскапам Венядыктам), а Берасцейская епархія была перададзена Украінскай Праваслаўнай царкве, бо тэрыторыя Берасцейскай вобласці была ўключана нямецкімі ўладамі ў склад імперскага камісарыяту Украіны [4, с. 278].

Пасля адхілення ад кіравання Царквой мітрапаліта Панцеляймона кіраваў Беларускай Праваслаўнай царквой архіепіскап Філафей. Ён таксама не ішоў на радыкальныя меры па ўтварэнні аўтакефальнай царквы і яе беларусізацыі, як гэтага патрабаваў беларускі актыў. Таму ў аддзеле культуры генеральнага камісарыяту Беларусі быў складзены план правядзення аўтакефаліі Царквы шляхам склікання Усебеларускага Праваслаўнага Сабору. Тады архіепіскап Філафей вызначыў перадсаборную камісію, але з рускіх святароў. Аднак па захадах галоўнага кіраўніка Беларускай Народнай Самапомачы доктара Івана Ермачэнкі склад перадсаборнай камісіі быў зменены, і ў яе былі ўведзены і святары-беларусы [4, с.278]. Перадсаборная камісія падрыхтавала Сабор згодна з канонамі Праваслаўнай царквы.

30 жніўня 1942 г. Усебеларускі Праваслаўны Сабор пачаў сваё пасяджэнне ў Менску. Сабор засядаў да 2 верасня. На Саборы былі прадстаўлены дэлегаты толькі ад дзвюх епархій – Менскай і Наваградскай. У Віцебскай, Магілёўскай і Смаленскай епархіях царкоўнае жыццё яшчэ не было наладжана. Царкоўных прыходаў там было мала, а выбары дэлегатаў не праводзіліся. Гарадзенская епархія была ў складзе Германіі, і дэлегатаў, натуральна, не прыслала. Усяго ў Саборы ўдзельнічалі 3 іерархі – архіепіскап Філафей і епіскапы Афанасій і Стэфан і 107 дэлегатаў, з іх 43 ад духавенства і 64 ад вернікаў. Маладых людзей было мала. Мітрапаліт Панцеляймон выдаў грамату архіепіскапу Філафею кіраваць Саборам [5, с. 279-280].

Сабор прыняў шэраг пастаноў, сярод якіх быў зацверджаны статут Праваслаўнай Беларускай аўтакефальнай царквы, які складаўся са 114 артыкулаў. У артыкуле 113-м гаварылася: "Кананічнае абвяшчэнне аўтакефаліі адбудзецца пасля прызнання яе ўсімі аўтакефальнымі Праваслаўнымі цэрквамі" [5, с. 280]. Такім чынам, абвяшчэнне аўтакефаліі не адбылося. Толькі 20 красавіка 1943 г., пасля вяртання мітрапаліта Панцеляймона ў Менск, паводле рашэння Сінода, епіскапы падпісалі лісты ды патрыярха Канстанцінопальскага і да кіраўніцтва іншых памесных цэркваў і перадалі гэтыя лісты ў генеральны камісарыят для накіравання іх дыпламатычным шляхам [4, с. 279]. Гэтыя лісты так і не дайшлі да адрасатаў з-за ваеннага часу.

У 1943-1944 гг. ва Усходняй Беларусі павялічылася колькасць царкоўных прыходаў і святароў. У сувязі з гэтым была ў верасні 1943 г. утворана Гомельска-Мазырская епархія, у кастрычніку быў высвечаны ў сан гомельскага епіскапа архімандрыд Рыгор Барышкевіч, аднак выехаць у Гомель не здолеў, бо Чырвоная Армія наступала на гэтым кірунку [5, с. 281-282], і 26 лістапада 1943 г. быў вызвалены ад акупантаў Гомель. Паколькі ў канцы 1943 г. было вызвалена і ўкраінскае Палессе, то ў красавіку 1944 г., пасля ліквідацыі райхкамісарыяту Украіны, да генеральнай акругі Беларусі былі далучаныя Пінская і Берасцейкая акругі. У Пінску епархіяй кіраваў мітрапаліт Аляксандр (Іназемцаў), а ў Берасці – архіепіскап Іаан

# У ІХ ЛЁСЕ БЫЎ МЛЫН

На Беларусі адцвітае восень. Сцішваецца, замірае Прырода. Для людзей надыходзіць час роздуму і падзякі. Настае час успомніць продкаў, аддзячыць за ўсю іх дабрыню светлымі думкамі, добрым словам, пранікнёнай малітвай. Згодна з народным павер'ем – у гэты восенькі час душы памерлых зятаюцца да сваіх месцаў. Мяркуюць, што ў іх узнікае патрэба ў ежы, жаданне паглядзець, як жывуць іх родныя. У знак памяці і павагі на Дзяды -26 кастрычніка па старым стылі (1 лістапада па новым) – накрываюцца памінальныя сталы, запальваюцца свечкі, каб "дзяды" зляталіся на іх святло. У гэтым годзе зусім блізка да беларускіх "дзядоў" пачатак святого месячнага паста мусульман, пачатак Рамадана. У час Рамадана мы таксама абавязкова ўспамінаем памерлых блізкіх нам людзей. Успамінаем, як яны жылі, чым займаліся, успамінаем іх звычкі, густы. Нашыя татары таксама маюць свае памінальныя стравы. Некаторыя памінальныя стравы ў беларусаў і ў татараў аднолькавыя: найперш, спецыяльна прыгатаваная крупяная каша. Заўсёды на сталe – бохан хлеба. Жывучы з беларусамі ў агульнай вялікай сям'і, беларускія татары міжволі, калі на Беларусі памінаюць продкаў, успамінаюць і сваіх. Добрая памяць - дапамога ў нашым зямным жыцці. У гэтыя дні я з удзячнасцю ўспамінаю сваіх бабуль Зофію і Халіму, дзядуль Алі і Сулеймана, дарагіх бацькоў - маму Лілію і тату Адама. А яшчэ я з удзячнасцю ўспамінаю людзей, якія не з'яўляюцца мне роднымі па крыві, але вельмі блізкімі па духу, па любові да роднай мне Беларусі.

У народным календары беларусаў ёсць яшчэ адзін выдатны дзень – свята млынароў. Беларусы-праваслаўныя аддаюць пашану млынарам 25 кастрычніка, а беларусы-каталікі 11 лістапада. Народная мудрасць вылучыла гэты людскі занятак у асобнае свята, прыдумаўшы для яго свае гульні, карагоды, паданні. Мне гэты знак пашаны да млынароў вельмі дарагі, таму што мой тата Александровіч Адам Сулейманавіч 40 год працаваў на млынкамбінате, прайшоўшы шлях ад рознарабочага да кіраўніка.

Наша з братам Аляксандрам маленства прайшло на вуліцы Свярдлова, у службовай кватэры млынкамбіната. Нашую сям'ю пасялілі ў частцы дома, у якім знаходзілася лабараторыя млынкамбіната. З дзяцінства засталіся ў маёй памяці словы: "мельніца", "прахадная", "весавая", "крупчатнік". Добра памятаю да гэтай пары прозвішчы, якія былі на вуснах не толькі таты, але і ўсёй нашай сям'і: Лябецкі, Радчанка, Вакулюк, Чачотка, Борыс, Шкнай, Рахманька. Асабліва вылучала я дзядулю "Дзеда Мароза" – Прэснага, які не толькі ў час выканання сваёй ролі на ранішніку для дзяцей у камбінатаўскім клубе, не забываўся звярнуць на мяне сваю ўвагу. Калі я была дома, то глядзець з акна на млынкамбінат мне вельмі падабалася. Па тэрыторыі хадзіў тата. Слова "тэрыторыя" для нас было сінонімам усяго млынкамбіната (акрамя "важніцы"). Гэта быў і наш двор. Млынкамбінат быў часткай жыцця нашай сям'і ўсе сорак год працы на ім майго таты. Калі мы ўжо жылі ў супрацьлеглым ад нашага першага месца пражывання баку - у пабудаваным на самым канцы тэрыторыі млынкамбіната асобным доме (да гэтага ў нас былі яшчэ дзве службовыя кватэры) мы працягвалі "слухаць" млын. Кожны з нашай сям'і ведаў: калі спыняецца шум рухавікоў – здарылася непаладка. Калі гэта была начная змена (тата ўжо не працаваў па зменах, бо займаў пасаду начальніка цэха), то можна было чакаць, што тату паклічуць на дапамогу. Млын, пах мукі, прыцярушаныя ёй бацькавы чорныя валасы, зярняткі, якія траплялі яму як у адзенне, так і ў абутак, бясконцая чарга ўздоўж вуліцы перапоўненых залатым зернем грузавікоў – усё гэта частка і майго жыцця. Для ўсёй нашай сям'і Навагрудскі млынкамбінат – гэта не проста адзінае за ўсё жыццё месца працы майго таты...

Воляй лёсу жыццё Янкі Купалы, а дакладней апошнія месяцы яго жыцця, былі звязаны з невялікім мястэчкам Пячышчы, размешчаным на стромкім правым беразе Волгі. На самой справе народны паэт Беларусі ехаў разам з прадстаўнікамі беларускай інтэлігенцыі ў эвакуацыю ў перапоўненую бежанцамі Казань. Але па запрашэнні дырэктара Пячышчанскага млынкамбіната Івана Якаўлевіча Наякшына застаўся ў Пячышчах. Ён нават некаторы час жыў разам з жонкай Уладзіславай Францаўнай у Наякшына, а пасля перасяліўся ў службовую кватэру пайшоўшага на фронт намесніка дырэктара. Калі я даведалася аб гэтым не ўсім вядомым факце з біяграфіі беларускага песняра, была вельмі ўзрушана. Я сваім розумам і пачуццямі, усім сэрцам уявіла і адчула, як Купала ідзе па тэрыторыі млына, як слухае шум яго. Што ён адчуваў? Аб чым думаў у гэты час вайны і жыцця? Якія пачуцці выклікалі ў яго простыя людзі, якія працавалі на млыне і з якімі ён размаўляў кожны дзень. Выдатна, што да гэтай пары ў музеі млынкамбіната захоўваюцца рэчы, звязаныя з Купалам. Яны ўтрымліваюць цяплыню яго рук, подых яго жыцця: пісьмовы стол, кніжная шафа з кнігамі, венскія крэслы, жалезны ложак, радыёпрыёмнік. Вядома, што Янка Купала нават друкаваўся ў газеце млынкамбіната. Тут быў створаны верш "Хлопчык і лётчык на вайне", пачатая паэма "10".

Наведваўся ён і ў Казань. 25 лістапада прыняў удзел у мітынгу беларусаў - супрацоўнікаў Акадэміі навук, сяброў Саюза пісьменнікаў. 18 студзеня выступаў з прамовай на радыёмітынгу прадстаўнікоў беларускага народа, 12 сакавіка - на навуковай сесіі АН БССР.

Да 1942 г. на татарскую мову было перакладзена два вершы Купалы. Упершыню у 1932 г. (перакладчык невядомы) быў перакладзены верш "А ў Вісле плавае тапелец..." У 1936 г. быў надрукаваны пераклад Х.Туфана верша "Сонца". У перыядычным друку змяшчаліся матэрыялы да 30-годдзя (1935 г.) і 35-годдзя (1940 г.) творчасці народнага паэта Беларусі. Пасля трагічнай гібелі Купалы паведамлялася аб яго смерці ў рэспубліканскім перыядычным друку, а татарскі паэт А.Ерыкееў прымаў удзел у жалобным мітынгу ў Саюзе савецкіх пісьменнікаў у Маскве.

Млынкамбінат у Пячышчах працуе і цяпер. А на адным з муроў будынкаў млынкамбіната мемарыяльная дошка з тэкстам: **"В этом доме с 13 ноября 1941 года по 13 июня 1942 года жил народный поэт Белоруссии Янка Купала"**. Мемарыяльная дошка была ўстаноўлена ў 1950 годзе, у 1975 годзе адкрыта музей-кватэра Я. Купалы, якая зараз з'яўляецца часткай музея гісторыі млынкамбіната.

Беларусь і беларус. Татарстан і татарын. Словы кожнай з гэтых пар блізкія як па гучанні, так і па звыкласці ўспрыняцця. Але ў жыцці не ўсё так проста і звычайна. У жыцці кожнага існуюць свае звязкі. Здарылася так, што татарын Адам Сулейманавіч Александровіч ніколі не бываў у Татарстане, а ўсё яго жыццё, як і жыццё яго продкаў, звязана было з Беларуссю. Беларус Іван Дамінікавіч Луцэвіч (Янка Купала) пражыў у Татарстане 6 месяцаў са сваіх 60 гадоў, але гэтая нядоўгая частка яго жыцця звязала Беларусь і беларусаў з куточкам татарскай зямлі навечна.

Жывучы на Беларусі, два сына гэтай зямлі ніколі не сустракаліся, іх шляхі практычна і не маглі скрыжавацца не толькі з-за рознасці ў занятках, месцах пражывання, але і з-за рознасці ва ўзросце. Дарагія мне людзі сышліся ў маім сэрцы, заняўшы ў ім свае, нікім не заменныя месцы. Першае месца належыць майму любаму тату Адаму Александровічу. Дзякуючы яму і маёй маме Ліліі Александровіч з'явілася я на свет, дзякуючы ім спазнала радасць дзяцінства, яны навучылі мяне цаніць жыццё ў лепшых яго праявах. Творчасць Янкі Купалы замацавала ўва мне спасцігнутае ў сям'і, у асяроддзі, а найперш Купала "прывёў" мяне да нашай Беларусі, да яе разумення, шчымлівай да яе любові.

Я не магу параўноўваць свайго тату і народнага паэта Беларусі. У кожнага з іх было сваё наканаванне. Лёс вызначыў так, што Купала працягвае сваё жыццё праз сваю творчасць, працяг жыцця майго таты – у яго дзецях і ўнуках, а таксама ў памяці людзей, якія ведалі і любілі яго. 2002-гі год злучыў для мяне дзве сумныя лічбы - 20 гадоў мінула з часу адыходу ў іншы свет майго таты, і 60 год - з адыходу Янкі Купалы. Гэты год яшчэ раз узбудзіў мае шчымлівыя ўспаміны і найвялікшае шанаванне памяці майго таты. У гэтым годдзе, адзначаючы 120-годдзе з дня нараджэння свайго песняра, Беларусь яшчэ раз спрабавала знайсці разгадку Купалавага сыходу ў вечнасць за некалькі дзён да павіннага адбыцца святкавання яго 60-годдзя ў Маскве. Мае думкі аб лёсе майго таты і лёсе майго любімага паэта аб'ядналіся. Сярод агульнага ў біяграфіях дарагіх мне людзей вылучаецца і аб'ядноўвае іх лёсы млын. Жыццё майго таты было звязана з Навагрудскім млыном з пятнаццацігадовага ўзросту і да дня смерці. З млына яго павезлі ў бальніцу, дзе пасля аперацыі на ныркі, якую рабілі прыляцеўшыя з Гародні на верталёце хірургі, ён ужо не прыйшоў у прытомнасць. З млына ў Пячышчах пад Казанню, дзе Купала пражыў 7 месяцаў, накіраваўся ён у свой апошні шлях у Маскву, дзе і загінуў у гатэлі ў выніку падзення ў лесвічны праём пры абставінах, да гэтай пары дакладна невядомых. Шмат яшчэ агульнага ўбачыла я ў жыццях двух людзей, кожны з якіх ішоў сваім шляхам. На пачатак дні нараджэння. Янка Купала нарадзіўся 25 чэрвеня (па старым, існаваўшым у той час, стылі) 1882 г., мой тата нарадзіўся 27 чэрвеня 1928 г. Іх імёны розныя па гучанні, але вельмі блізкія па энергетыцы - Іван і Адам, ці як іх называлі ў маленстве, Ясь і Адась. Нават вуліцы, дзе стаялі дамы, у якіх яны жылі са сваімі сем'ямі, былі аднайменнымі: наш дом і зараз стаіць на завулку Садовым; да вайны месца, якое цяпер носіць назву Купалаўскага сквера (там жа стаіць і дом-музей Купалы), насіла назву вуліцы Садовай. Бацькі кожнага былі са шляхты, але пры гэтым займаліся працай на зямлі. Кожны, страціўшы бацьку (Я. Купала ў 20 год, мой тата ў 28 год), стаў галоўным апірышчам для маці і малодшых у сям'і дзяцей, побач са сваёй маці кожны і спачывае вечным сном. Кожны прайшоў праз цяжкую працу рознарабочага, не здолеўшы з-за сямейных абавязкаў атрымаць належную адукацыю, але, дзякуючы прыроднаму розуму, сам спасцігаў навуку, у тым ліку і навуку жыцця.

Мне мудрасці кніжнай
не даў Бог пазнаці,
Мой бацька не мог
даць раскошаў такіх...
------
На чужы розум
я не ўмею браць,
Па-свойму
я мяркую аб усім;
Трапляю дровы сеч,
касіць, араць,
І сеяць - што сабе,
а штось другім.

*(З вершаў Янкі Купалы).*

Людзі звычайна вымяраюць жыццёвыя вехі сотняй гадоў. Выпадкова ці не, у сто гадоў змясціўся жыццёвы шлях двух жыхароў беларускай зямлі. Распачаў яго Янка Купала (1882-1942), завяршыў Адам Александровіч (1928-1982). Я думаю, што жыцці гэтых людзей былі пазначаныя Богам і Ім прынятыя. Прайшоўшы праз жыццёвыя выпрабаванні, кожны выйшаў на свой шлях, аддаўшыся адной на ўсё жыццё справе, прыняўшы яе як свой абавязак. Хоць Янка Купала напісаў: "Я не паэта, о крый мяне Божа!", але народ назваў яго сваім Песняром. Майго тату рэдка не называлі млынаром, але кожны, хто ўспомніць Навагрудскі млынкамбінат (пасля смерці таты ён у хуткім часе спыніў сваю працу), сярод першых назаве імя Адама Сулейманавіча Александровіча.

*"Між Татарскім канцом і Пярэспінскім мастком, ля самага Віленскага паштовага шляху, некалі пасяліўся славуты асілак-знахар па празванні Мянеск і пабудаваў на Свіслачы вялікі каменны млын на сем колаў".* Так пачынаецца паданне пра легендарнага заснавальніка Менска. У паданні гаворыцца, што сабраў Мянеск таксама дружыну з храбрых і дужых людзей, з якіх пазней утварыўся цэлы народ. Калі я ўяўляю сябе Мянеска, мне здаецца, ён падобны на майго тату – моцны, прыгожы, працавіты і жыццялюбівы. Калі я думаю пра Беларусь, пра яе народ, я думаю думкамі Купалы. Я вельмі даражу такой маёй спадчынай, з ёй жыве "дум маіх сям'я".

***Разалія Александровіч.***

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220034, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* naszaslowa@tut.by
http://tbm.org.by/ns/

***Рэдакцыйная калегія:***
Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Вольга Іпатава, Васіль Ліцьвінка, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 26. 09. 2005 г. у 11.30. Замова № 1528.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 2000 асобнікаў.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 1180 руб., 3 мес.- 3540руб.
***Кошт у розніцу:*** па дамоўленасці.